Published by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc., U. S. A. and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE

# Беларус

ЦАНА — PRICE ¢ 50

Post Address:
BIELARUS
P. O. Box 109
Jamaica, N. Y. 11431

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD

Год XVIII. № 137 | Верасень 1968. | NEW YORK — TORONTO | September 1968. | Vol. XVIII. № 137

## ВОСЬМАЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ

### ІДЭЙНА-НАЦЫЯНАЛЬНЫ Й ПАЛІТЫЧНЫ АСПЭКТ СУСТРЭЧЫ

Урачыстыя сьвяткаваньні залатога юбілею БНР, што ў паасобных беларускіх асяродзьдзях ЗША й Канады адбываліся ў сакавіку-красавіку сёлета, мелі сваё выдатнае завяршэньне й укаранаваньне на традыцыйнай Восьмай Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі 31 жніўня — 1 верасьня ў Дэтройце. За тэму гэтае Сустрэчы былі вельмі адпаведна выбраныя 50-ыя ўгодкі Акту 25 Сакавіка, якім Беларуская Народная Рэспубліка была ў 1918 годзе абвешчаная вольнай і незалежнай дэмакратычнай рэспублікай.

Ужо самы выбар гэтае эпахіяльнае падзеі за тэму Сустрэчы моцна спрычыніўся да таго, што Сустрэча сёлетняя праходзіла на высокім ідэйным і палітычным узроўні ды мела глыбокі нацыянальны зьмест, як бадайшто ніводная з дасюлешніх сустрэчаў. Да высокага ідэйна-палітычнага ўзроўню сёлетняе Сустрэчы нямала прычынілася й тое, што ейныя арганізатары й гаспадары — Управа й сябры Аддзелу БАЗА ў Дэтройце правільна зразумелі заданьне такіх сустрэчаў і асабліва выняткавае значаньне сёлетняе Сустрэчы. Яны ў праграме Сустрэчы прысьвяцілі шмат больш, чымся практыкавалася раней, часу і ўвагі дакладам і прамовам на тэмы, беспасярэдня зьвязаныя з нашай нацыянальна-вызвольнай праблемай напрацягу цэлага паўстагодзьдзя. У дакладах, прамовах і ў прынятай рэзалюцыі моцна навязвалася да сяньняшніх падзеяў у Чэхаславаччыне й адпаведна падчырквалася блізкая аналёгія між гэтымі падзеямі й палітычнай сытуацыяй на нашай Бацькаўшчыне. Гэта надавала Сустрэчы ідэйную завойстранасьць і палітычную актуальнасьць.

У той час, калі на папярэдніх сустрэчах была ладжаная адна ўрачыстая акадэмія, падчас апошняе Сустрэчы, у поўнай адпаведнасьці й мэтазгоднасьці з важнасьцяй тэмы й напружанасьцяй палітычнай сытуацыі, былі зладжаныя дзьве такія акадэміі: у сыботу 31 жніўня беспасярэдня пасьля супольнага афіцыйнага банкету адбылася ўрачыстая акадэмія для ўдзельнікаў Сустрэчы й амэрыканскіх ды іншанацыянальных гасьцей у ангельскай мове; у нядзелю-ж 1-га верасьня беспасярэдня пасьля супольнага афіцыйнага абеду была праведзеная ўрачыстая акадэмія вылучна ў беларускай мове толькі для ўдзельнікаў Сустрэчы.

Гэткае падваеньне нацыянальна-палітычнай праграмы было хіба найбольшай заслугай арганізатараў Сустрэчы. Трэба заўсёды мець наўвеце, што людзі із-за сотняў міляў прыяжджаюць на такія Сустрэчы ня толькі дзеля асабістых спатканьняў із знаёмымі й прыяцелямі пры буфэце падчас танцавальных вечарынаў, а галоўна дзеля замацаваньня нацыянальнай салідарнасьці, грамадзкай актывізацыі й заманіфэставаньня нашай вызвольнай ідэі.

### УРАЧЫСТЫЯ БОЖЫЯ СЛУЖБЫ

З асаблівай прыемнасьцяй даводзіцца падчыркнуць, што вялікую ўвагу сёлетняй Сустрэчы дало нашае духавенства абодвых веравызнаньняў. У Сустрэчы прынялі асабіста ўдзел два герархі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы: Яго Праасьвяшчэнства Япіскап Горадзенска - Навагрудзкі й Кліўлендзкі Андрэй ды Яго Праасьвяшчэнства Япіскап Турава-Пінскі й Таронцкі Мікалай, а ітак-жа настаяцель парахвіі БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Брансьвіку а. Васіль Кендыш, пратадыякан а. Калістрат Савіцкі й дыякан а. Міхал Страпко парахвіі БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе.

Яны-ж у нядзелю перад абедам адправілі для ўдзельнікаў Сустрэчы ў царкоўна-славянскай мове ўрачыстую Божую Службу, у часе якой глыбака патрыятычныя казаньні сказалі Уладыка Андрэй і а. Васіль Кендыш, а царкоўны хор з Кліўленду пад кіраўніцтвам Кастуся Кіслага, папоўнены мясцовымі сьпевакамі, стварыў высокі урачысты настрой.

Беларускае каталіцкае духавенства было прадстаўленае настаяцелем беларускай царквы Хрыста Спаса ў Чыкага а. Уладзімерам Тарасэвічам, які адправіў Божую Службу паводля ўсходняга абраду ў беларускай мове.

### ПЕРШАЯ УРАЧЫСТАЯ АКАДЭМІЯ

Праграма Сустрэчы пачалася ўрачыстым банкетам спалучаным з афіцыйнай акадэміяй у ангельскай мове ў сыботу 31 жніўня вечарам. Пасьля ейнага адчыненьня ўступным словам і прывітаньнем удзельнікаў і гасьцей старшынём Аддзелу БАЗА ў Дэтройце Юркам Мазурам, быў прапяяны амэрыканскі гімн сьпявацкай групай Дэтройцкіх Беларусаў ды была прачытаная адпаведная малітва Уладыкам Мікалаем з Таронта.

Пасьля гэтага Юрка Мазура прадставіў старшыню Сустрэчы мгра Васіля Плескача, які ў далейшым, уперамешку зь Пятром Плескачом, як майстрам цырымоніі, вёў урачыстасьць. Мгр. Васіль Пляскач добрай дыкцыяй і беззаганнай ангельскай мовай сказаў даўжэйшую прамову, у якой успомніў гістарычныя падзеі, што прывялі да абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў 1918 годзе, ды нарысаваў галоўныя этапы вызвольнага беларускага руху аж да сяньняшніх дзён.

З прывітальнай прамовай выступіў прадстаўнік бурмістра гораду Дэтройт Робарт Рэпкэ, які, на заканчэньне, прачытаў праклямацыю бурмістра, выдадзеную ім з нагоды Восьмае Сустрэчы Беларусаў у Дэтройце (зьмяшчаецца побач). Пасьля яго з прывітальнай прамовай выступіў прадстаўнік Рады Нацыянальнасьцяў Рэспубліканскай Партыі, ён-жа й прадстаўнік віцэ-губэрнатара штату Мічыган Г. А. Лёрычэля.

Пасьля гэтага з прывітальнай прамовай выступіў віцэ-прэзыдэнт Рады БНР д-р Вінцук Жук-Грышкевіч, які сёлетнія 50-ыя ўгодкі БНР адпаведна зьвязаў зь іншымі важнымі падзеямі году, як абвешчаньне Задзіночанымі Нацыямі сёлетняга году — годам людзкіх правоў і нацыянальна-вызвольная рэвалюцыя ў Чэхаславаччыне. Ад Галоўнай Управы Згуртаваньня Беларусаў Канады вітала ўдзельнікаў Сустрэчы сакратар гэтай Управы д-р Раіса Жук-Грышкевіч, а ад Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня — ейны старшыня Уладзімер Курыла. Ён-жа прачытаў праект рэзалюцыі, што была прынятая аклямацыямі (друкуецца на 2-ой бачыне) й перасланая Прэзыдэнту ЗША Ліндану Б. Джансану, Прэм'ер-Міністру Канады П'еру Э. Трудо й Задзіночаным Нацыям.

У далейшым прамаўлялі: ад Дэтройцкага Аддзелу Летувіскага Камітэту ў ЗША Юргіс Гэнбэргас, віцэ-старшыня Польска-Амэрыканскага Кангрэсу ў Дэтройце М. Ячынскі, ад Украінскага Кангрэсавага Камітэту Васіль Калодчын, сакратар Дэтройцкага Камітэту Паняволеных Народаў сп-ня Аміля Запарожац. Прывітальныя тэлеграмы прыслалі: Губэрнатар штату Мічыган Джордж Ромні, абодвы сэнатары ад штату Мічыган Робарт Грыфін (Рэспубліканец) і Піліп Гарт (Дэмакрат), кангрэсмэны Вільям Брумфільд, Вільям Форд, Гэральд Форд, Джон Дынгель, Марта Грыфін, Дырэктар Рэспубліканскага Нацыянальнага Аддзелу Выбарнай Галоўнай Гасподы Рычарда Ніксана й Сьпіро Агню — Эстонец Ільмэр Гэйнару, старшыня Латыскага Згуртаваньня ў Дэтройце Д. Рудзітс, Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі, Аддзел у Брадфардзе.

Акадэмія закончылася агульным прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

### ДРУГАЯ УРАЧЫСТАЯ АКАДЭМІЯ

Беспасярэдня пасьля Божых Службаў за багата застаўленымі сталамі адбыўся супольны сяброўскі абед, а адразу па ім была праведзеная другая з парадку ўрачыстая акадэмія. Адчыніў яе старшыня Сустрэчы Мгр. Васіль Пляскач гарачай патрыятычнай прамовай, у якой заклікаў быць вартымі высокіх ідэяў Акту 25 Сакавіка.

Прадугледжаны праграмай галоўны даклад на Сустрэчы зрабіў д-р Станіслаў Станкевіч. Ён зьвярнуў асаблівую ўвагу на несьмяротнасьць нацыянальна-вызвольнае ідэі сярод беларускага народу на Бацькаўшчыне ды на бясспрэчны факт насьпяваньня ў ім тых нацыянальных імкненьняў, што выявіліся апошнім часам у Чэхаславаччыне.

Пасьля дакладу выступіў з гарачай прамовай Віцэ-Прэзыдэнт Рады БНР д-р Вінцук Жук-Грышкевіч, у якой асаблівая ўвага была зьвернутая на ролю й заданьні беларускае эміграцыі ў нашым вызвольна-нацыянальным руху. Тады праф. Антон Адамовіч у сваёй прамове дапоўніў некаторымі мамэнтамі даклад д-ра Ст. Станкевіча.

Апрача вышэй згаданых, прамаўлялі й віталі ўдзельнікаў Сустрэчы: д-р Раіса Жук-Грышкевіч ад Згуртаваньня Беларускіх Жанчын Канады, Вацлаў Пануцэвіч ад Згуртаваньня Беларусаў штату Іліной у Чыкага, старшыня Аддзелу БАЗА ў Каліфорніі інж. Янка Бруцкі, старшыня Галоўнай Управы БАЗА Уладзімер Курыла, Яго Праасьвяшчэнства Архіяпіскап Мікалай, старшыня Беларускага Выдавецкага Мастацкага Клюбу „Пагоня" Кастусь Акула і, наапошку, д-р Віктар Васілеўскі, які падчыркнуў ролю беларускіх жанчынаў у нашым нацыянальным руху ды запрапанаваў прапяяць ім „Шмат год!"

Пасьля словаў падзякі ўдзельнікам Сустрэчы і ўсім тым, што спрычыніліся да ейнага правядзеньня, старшыні Сустрэчы В. Пляскача й старшыні Аддзелу БАЗА Ю. Мазуры, акадэмія была зачыненая малітвай удзячнасьці Уладыкі Андрэя й супольным прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

### КАНЦЭРТ

У Канцэрце, што адбыўся ўжо ў іншай залі адразу пасьля ўрачыстай акадэміі ў нядзелю 1 верасьня й быў ведзены ведамым беларускім кампазытарам і музыкаведам праф. Міколам Куліковічам з Чыкага, прынялі ўдзел прафэсійныя й самадзейныя мастацкія сілы з Дэтройту, Кліўленду, Чыкага, Нью Джэрзі й Каліфорніі.

Першай выступіла Ірэна Мароз з Чыкага зь беларускай фантазіяй, выкананай на піяніне. Тады Вера Рамук з Чыкага чыстым тэнарам прапяяла солё беларускія народныя песьні „А ў полі вярба" й „Палыночак" ды клясычныя італьянскія песьні.

Танцавальны гурток ЗБМА зь Нью Джэрзі пад кіраўніцтвам Аўгена Лысюка жвава выканаў два беларускія народныя танцы — „Мікіту" й „Рукавіцы". Гучнымі воплескамі была ўзнагароджаная Вера Арцюх з Дэтройту, якая лірычным сопрано прапяяла солё песьні „Белавежа" й „Варта жыць", абедзьве кампазыцыі Юркі Мазуры на словы Натальлі Арсеньневай.

Глыбокай настраёвасьцяй вызначаліся дзьве песьні кампазыцыі Міколы Куліковіча „Я ад вас далёка" на словы Янкі Купалы й „О Беларусь, мая шыпшына" на словы Уладзімера Дубоўкі, якія былі выканаваныя дуэтам Верай Арцюх і Барбарай Сажыч з Дэтройту. На прафэсійным узроўні была дэклямацыя Веры Вуіч зь Лёс Анджэлес патрыятычнага ўрыўка з „Новай Зямлі" Якуба Коласа „Малюнкі родныя і зьявы".

Добра ўжо ведамы беларускаму слухачу наш малады прафэсійны сьпявак Мікола Стрэчань з Кліўленду выканаў солё песьню „Лета" на словы Н. Чарнушэвіча музыкі А. Тэраўскага, а таксама паітальянску арыю з опэры Пучыні „Тоска" й адну іншую клясычную італьянскую песьню, зьбіраючы пасьля кажнай авацыйныя воплескі.

Ведамая беларуская прафэсійная сьпявачка Надзея Градэ з Чыкага ўпэўненым голасам выканала солё арыю з опэры Манюшкі „Галька", песьню „Быццам казка" й „Грэнада".

Да ўсіх успомненых песенных нумароў акампаніяваў на піяніне праф. М. Куліковіч.

Завяршэньнем канцэрту было выступленьне Жаноцкага Ансамблю з Кліўленду пад кіраўніцтвам сп. Кастуся Кіслага зь песьнямі „А вясна ідзе на Беларусі" на словы Уладзімера Дубоўкі, кампазыцыі М. Куліковіча, „Дываночак" на словы Адама Русака і „Ручнічкі". Акампаніяваў на акадыёне Літвінка.

Канцэрт закончыўся нацыянальным гімнам, выкананым Жаноцкім Ансамблем і дружна падхопленым усімі прысутнымі. У цэласьці канцэрт быў на высокім прафэсійным узроўні й пакінуў незацёртае ўражаньне на прысутных.

### ТАНЦАВАЛЬНЫЯ ВЕЧАРЫНЫ

У сыботу пасьля акадэміі і ў нядзелю пасьля канцэрту адбываліся танцавальныя вечарыны. Абедзьве яны мелі таксама некаторае грамадзкае значаньне, бо ў часе іх, калі адныя, пераважна маладыя, заўзята танцавалі, іншыя вясёла й шумна праводзілі час каля буфэту, а йшчэ іншыя выкарыстоўвалі гэтую нагоду на гутаркі й нарады пра арганізацыйныя й грамадзкія справы.

### АЎДЫТОРЫЯ СУСТРЭЧЫ

Восьмая Сустрэча была аднэй з найбольш колькасных і рэпрэзэнтацыйных з гледзішча на вялікі ўдзел у ёй Беларусаў літаральна з усіх арганізаваных групаў у ЗША й Канадзе ды ладнае колькасьці суродзічаў, што жывуць адзінока ў мясцовасьцях, аддаленых ад зарганізаваных цэнтраў. Асабліва ў вялікай колькасьці былі прадстаўленыя, апрача, зразумела, самога Дэтройту, Беларусы Чыкага, Кліўленду, Нью Джэрзі, Нью Ёрку, паасобных пунктаў Канады, і бадайшто ўпяршыню ладнай групай з далёкай Каліфорніі на чале із старшынём Аддзелу БАЗА ў Лёс Анджэлес інж. Я. Бруцкім. Важна й карысна тое, што Беларусы з усіх пералічаных асяродзьдзяў добра выказаліся сваім удзелам у праграме Сустрэчы, ці то выступаючы з дакладамі й прамовамі, ці ўдзелам у мастацкай частцы.

Асаблівае прызнаньне й шчырая падзяка належыцца арганізатарам Сустрэчы — Управе й сябром Аддзелу БАЗА ў Дэтройце. Было відаць, што бадайшто ня было ніводнага сябры гэтага Аддзелу БАЗА, на якога ня было-б узложанае нейкае адказнае арганізацыйнае заданьне й які-б яго ня выканаў. Навет вячэра ў сыботу й абед у нядзелю былі падрыхтаваныя гэтак смачна і ў такой вялікай колькасьці, што ніхто ня мог застацца галодным.

Пэўне-ж, былі й некаторыя арганізацыйныя няўвязкі, але раўнуючы да дасягненьняў яны былі нагэтулькі дробныя, што было-б нетактычна іх пералічаць. Наагул-жа адзін зь меншых аддзелаў БАЗА ў Дэтройце выдатна вывязаўся з узятага на сябе заданьня.

***

У міжчасе адбылося пашыранае паседжаньне Рэдакцыйнае Калегіі газэты „Беларус" (пра гэта гл. асобна), паседжаньні сяброў Беларускага Ведавецкага Мастацкага Клюбу „Пагоня", старшыняў Аддзелаў БАЗА й беларускіх лекараў. На паседжаньні старшыняў Аддзелаў БАЗА было выказанае пажаданьне, каб наступная 9-ая Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі адбылася ў 1970 годзе ў Нью Ёрку.

Ст. Ст.

---

# PROCLAMATION

City of Detroit - Executive Office

JEROME P. CAVANAGH
Mayor

BYELORUSSIAN NATIONAL REPUBLIC INDEPENDENCE DAY

March 25, 1968

WHEREAS A free and independent Byelorussian National Republic was proclaimed on March 25, 1918, and

WHEREAS Shortly thereafter, this new nation and its courageous, liberty-loving citizens were subjugated by the Soviet Red Army, despite gallant and heroic resistance, and

WHEREAS To commemorate the golden anniversary of Byelorussian independence, the Detroit chapter of the Byelorussian-American Association is the host of a convention to be held in Detroit on August 31, September 1 and September 2, 1968, and

WHEREAS Delegates will come to Detroit from many different parts of the United States and Canada to adopt several resolutions to be sent to the President of the United States and the Prime Minister of Canada

NOW, THEREFORE, I, Jerome P. Cavanagh, Mayor of the City of Detroit, do hereby proclaim March 25, 1968 as

BYELORUSSIAN NATIONAL REPUBLIC INDEPENDENCE DAY

in Detroit in tribute to a people who are dedicated to the eventual restoration of freedom to all nations, large or small, presently under the domination of tyrants.

Given under my hand and seal this 28th day of August, 1968

Jerome P. Cavanagh
Mayor

Праклямацыя бурмістра Дэтройту з нагоды 8-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі

# ВЕСТКІ З КАНАДЫ

## ІЗ СТРАХУ ПЕРАД СВАБОДАЙ

Напад Савецкага Саюзу на Чэхаславаччыну, каб здушыць маладую свабоду, пракаціўся злавесным рэхам па ўсім сьвеце. Людзі не спадзяваліся, што нешта падобнае можа здарыцца ў нашых часох. Жывём у часе нязвычайнага поступу тэхналёгіі й агульнанароднай асьветы, што ўзмацняе імкненьні да індывідуальнай ініцыятывы, да асабістай і нацыянальнай свабоды, да дэмакратыі.

Імкненьні гэтыя ёсьць галоўнай азнакай нашага часу. Камунізм, калі ён хоча выжыць, мусіць датарнавацца да духу нашага часу, да гістарычнага працэсу. Мусіць перастравіць сваю эканоміку на прыватную ініцыятыву й гандлёвую рэнтоўнасьць, што цягне за сабой прызнаньне свабоды народам і адзінкам. Здавалася, што й у Савецкім Саюзе зьявіліся зародкі зьмен у гэтым кірунку, а ў некаторых савецкіх сатэлітаў адбыліся вельмі сьмелыя й паважныя зьмены.

У нядаўным часе Чэхаславаччына высунулася на першае месца сярод сатэлітаў у правядзеньні рэформаў і зусім ня дзіўна — чаму. Чэхаславаччына найбольш падрыхтаваная да сучаснага гістарычнага прагрэсу з усяе Савецкае імпэрыі. Чэхі найкультурнейшы народ з усіх славянаў, а за імі падцягваюцца Славакі. Яны маюць найлепш разьвітую прамысловасьць і тэхналёгію з усіх народаў, што трапілі пад маскоўскі рэжым. Чэхі й Славакі маюць глыбока закаранёныя дэмакратычныя традыцыі, у часе між войнамі ў Чэхаславаччыне на працягу 20 год быў сапраўдны дэмакратычны лад.

Калі ў 1948 годзе Чэхаславаччына была ўцягнута пад панаваньне Сталіна, яна мусіла падзяліць лёс усіх падсавецкіх народаў. Яе багатая і жыватворчая эканоміка была ўцягнута ў савецкую сыстэму й пачала заміраць. Усе дэмакратычныя свабоды былі скасаваныя. У краі запанавала таталітарная дыктатура Масквы. Прамысловасьць падупала. Гандаль быў зьведзены да савецкай эксплятацыі. Край зьбяднеў. Грамадзтва апанавала галіта й безнадзейнасьць. І ня было выхаду, пакуль панавала дыктатура сталінскага тэрору.

Калі культ Сталіна быў звалены й яго сыстэма паслабела — высокакультурнае й сьведамае сваіх сілаў і патрэбаў грамадзтва Чэхаславаччыны пачало ажываць і дамагацца здэмакратызаваньня жыцьця. Напор грамадзтва на здабыцьцё свабоды пастулова ўзрастаў. Сталіністыя на чале з Навотным не маглі стрымаць узросту гэтай магутнай плыні, яна расла й пашыралася, ахапіла вялікі лік лібэральных камуністых, якія высунулі на чало партыі Дубчэка. Дубчэк стаў правадыром гэтай плыні, ён паставіў стаўку не на партыйны апарат, як гэта зрабіў Гамулка ў Польшчы, а на грамадзтва, на народ. Дзякуючы гэтаму ў такім малым краі вырасла магутная сіла, што сталася пагрозай для такой вялікай, але рэакцыйнай і адсталай Савецкай імпэрыі.

Дубчэк із сваім лібэральным партыйным і дзяржаўным апаратам пачаў уводзіць зьмены паводля патрэбаў народу. 8 месяцаў лібэралізацыі адрадзіла край. Была створаная новая форма камуністычнага ладу: камуністычная дэмакратыя ў жыцьці, а не на паперы. Гэтая новая форма камуністычнага ладу аказалася запярэчаньнем аджыўшай бальшавіцкай сыстэмы Маркса і Леніна й савецкай практыкі, а адначасна сталася канкрэтным зьместам і прыкладам для камуністычных партыяў Захаду, якія, адарваўшыся ад маскоўскіх тэорыяў і практыкі, шукалі новага жыцьцёвага зьместу для сваіх праграмаў, каб не збанкрутаваць канчальна. Чэхаславаччына дала выхад з тупіка камуністым Францыі, Італіі й іншых заходніх краінаў, але разам з тым паставіла ў яшчэ горшы тупік Савецкі Саюз. Чаму?

Таму, што Савецкі Саюз, хоць і дапусьціў нязначную лібэралізацыю, як адкінулі Сталіна, але ў васнаўным сталінскай сыстэмы не зьмяніў. А тым часам палітычная сытуацыя ў сьвеце моцна зьмянілася. Выхад спад маскоўскай дамінацыі Кітаю й ягонае суперніцтва з Масквой у камуністычным сьвеце на грунъце палітычным і ідэялягічным расслабілі камуністычны фронт і спрычыніліся да незалежніцкіх імкненьняў у сатэлітаў і навет у падсавецкіх народаў. У самім-жа Савецкім Саюзе, дзякуючы разьвіцьцю тэхналёгіі й пашырэньню асьветы эканамічнае й грамадзкае жыцьцё вымагае радыкальных зьменаў, каб задаволіць патрэбы насельніцтва, каб не адставаць ад поступу й прагрэсу ў гістарычным працэсе. Аднак на няшчасьце сваё й падсавецкіх народаў тупыя й рэакцыйныя савецкія апаратчыкі або ня бачаць гэтага, або не разумеюць. Яны й надалей спадзяюцца ўтрымацца пры ўладзе із сваімі няжывімі тэорыямі, апіраючыся на сталінскую сыстэму тэрору.

Таму чэхаславацкую лібэралізацыю, якая прывяла да скасаваньня цэнзуры, да свабоды слова, сходаў і крытыкі, савецкія лідары ўспрынялі не як нармальнае зьявішча, а як вялікае зло, што пагражае ўсёй іхняй сыстэме, усёй Савецкай імпэрыі і ім самім. Трымаючыся такіх паглядаў, маскоўскія заправілы адразу былі аднязгодныя ў тым, што лібэралізацыю ў Чэхаславаччыне трэба зламаць сілай, хадзіла аб тое толькі, як і калі. Адсюль і вынікла тыповая савецкая „дыпляматыя" пры перамовах у Цэрнай і Браціславе, каб выйграць час ды знайсьці квісьлінгаў у падстаўны паслушны ім урад і падрыхтавацца да ваеннага нападу.

Ваенная апэрацыя нападу ўночы з 20 на 21 жніўня прайшла хутка й спраўна, але савецкім агрэсарам прыйшлося наткнуцца на прыкрыя й неспадзяваныя перашкоды. Савецкія „браты" былі пэўныя, што ім удасца зьнішчыць Дубчэка з усёй ягонай праграмай і апаратам так лёгка, як лёгка яны зьнішчылі ў 1948 годзе Масарыка. Але рэчаіснасьць змусіла іх пераканацца, што цяпер ня 1948 год, а 1968, і што калі-б яны й зьнішчылі Дубчэка, дык на яго месца зьявіцца некалькі новых Дубчэкаў. Палітычна Саветы ўлезьлі ў такое гразкае балота, зь якога няскора ім удасца вылезьці, і пытаньне, ці яны змогуць калісь абчысьціцца зь яго.

Ваенны напад на Чэхаславаччыну ўдаўся, але вайна з чэскім і славацкім народам яшчэ ня выйграная й пытаньне, ці будзе выйграная. Ужо відаць, чаго Масква не змагла дасягнуць у акупаваным краі: яна не магла пазбыцца Дубчэка й яго лібэральнага ўраду ды ўстанавіць на яго месца паслушнага ёй падстаўнога ўраду. Чэхаславацкія сталінаўцы, на якіх Масква так лічыла, як на апору — ня толькі не змаглі ні ў чым ёй памагчы, але самі цяпер, як, напрыклад, Швэстка, Біляк, Кольдар і Якош, выракаюцца публічна супрацоўніцтва з акупантамі. Масква не змагла пазбыцца супраціўнага ёй чэхаславацкага парляманту, які быў і ёсьць чынны ад самага пачатку нападу. Акупантам не ўдалося зламаць пасыўнага супраціву ўсяго народу, як Чэхаў, так і Славакаў. Гэта ў самой Чэхаславаччыне. А на сусьветнай палітычнай арэне?

Савецкая агрэсія ў Чэхаславаччыне выклікала куды большую й мацнейшую рэакцыю ў сьвеце, чымся агрэсія 12 год таму ў Угоршчыне. Дык і кансэквэнцыі зь яе для Савецкага Саюзу будуць куды горшыя, куды большыя. Ужо відаць, што камунізм, як прылада савецкай вонкавай палітыкі — скочыўся, бо напад на Чэхаславаччыну паказаў усім народам, што нясе з сабою гэты маскоўскі камунізм. З 88 камуністычных партыяў сьвету толькі 10 падтрымалі савецкую агрэсію ў Чэхаславаччыне, рэшта-ж 78 паставіліся да яе адмоўна, або й войстра асудзілі яе.

Пасьля гэтага ганебнага чыну Савецкі Саюз мусіць пазбыцца сваіх мараў аб кіраўніцтве над камунізмам у сьвеце. Вызначаны на лістапад г. г. камуністычны кангрэс у Маскве з мэтай запэўненьня кіраўнічай ролі КПСС — пытаньне, ці зможа навет адбыцца.

Гэтак званае мірнае суіснаваньне Саветаў з Захадам адразу павісла ў паветры з усімі яго гандлёвымі й культурнымі абменамі. Дагавор Саветаў з Амэрыкай аб непашыраньні нуклеарнай зброі сярод меншых дзяржаваў ніхто ўжо ня хоча падпісваць, а НАТО змушана да павялічэньня сваіх ваенных сілаў. Вось які баланс савецкай агрэсіі ў Чэхаславаччыне.

А тым часам праўдзівы абраз здрадніцкага савецкага нападу на малы камуністычны пабратымчы край — паміма хлусьлівай савецкай прапаганды й глушэньня радыёвых перадачаў з вольнага сьвету — рознымі каналамі даходзіць да сьведамасьці падсавецкіх народаў, да ўсяго грамадзянства і напэўна выкліча абурэньне ды ўзмоцніць дамаганьні лібэралізацыі й свабоды. Тады савецкія лідары мо' зразумеюць, што нельга стрымліваць шматнароднай хвалі ў яе імкненьні да свабоды й дэмакратыі ні хлусьнёй, ні схалястычнай палітграматай, ні тэрорам; што гэта імкненьне ня ёсьць чыйсьці выдумкай, а натуральным вынікам поступу ў эканамічным, культурна-асьветным і грамадзкім жыцьці, натуральнай патрэбай кажнага народу, кажнага грамадзяніна; што стрымліваньне гэтых імкненьняў азначае супрацьстаўленьне гістарычнаму працэсу.

Калі-ж маскоўскі камунізм і далей будзе сілай стрымліваць гэты працэс, дык няўхільная рэвалюцыя, якая прывядзе да распаду ўсяе Савецкае імпэрыі.

**В. Жук**



### ДЭМАНСТРАЦЫЯ Ў ТАРОНТА СУПРАЦЬ САВЕЦКАЙ АГРЭСІІ

29 жніўня вечарам у Таронта адбылася дэманстрацыя этнічных групаў Канады супраць савецкага нападу на Чэхаславаччыну. У дэманстрацыі ўзялі ўдзел больш за 4.000 асобаў. Чэхі, Славакі, Украінцы, Беларусы, Палякі, Летувісы, Эстонцы, Вугорцы й іншыя із сваімі нацыянальнымі сьцягамі й транспарэнтамі прайшлі ў вагромністай масе ад антарыйскага парляманту да пляцу Натана Філіпса. Тут выступілі з прамовамі: кантралёр М. Кэмбэл — ад Меставай Рады, пасол д-р Гайдаш — ад фэдэральнага ўраду й міністар А. Гросман — ад правінцыяльнага ўраду. Была прачытаная й прынятая рэзалюцыя — пэтыцыя да канадыйскага ўраду, каб ён паставіў справу Чэхаславаччыны ў Задзіночаных Нацыях з дамаганьнем асуджэньня Савецкага Саюзу за напад на Чэхаславаччыну, вывядзеньня войска акупантаў ды правядзеньня вольных выбараў ува ўсіх паняволеных Саветамі й камунізмам краёх. Дэманстрацыйным сходам перад Меставай Радай кіравалі сп. Эрвін Сіптак Чэх і сп. Джордж Бэн — лібэральны пасол Антарыйскага парляманту — Славак.

### НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ПАЧУЦЬЦІ Ў СССР РАСТУЦЬ

Карэспандэнт газэты „Уол Стрыт Джорнал" (25. VII. 68) Рэй Вікер у артыкуле з Прагі п. заг. „Чэская драма: Расея ня можа выйграць" піша, што ўнутры савецкае імпэрыі наростаюць нацыянальныя пачуцьці, якія трывожаць маскоўскі рэжым яшчэ больш, чымся чэхаславацкія дамаганьні свабоды.

Саветы, піша Р. Вікер, даўно цьвердзяць, што народы СССР зьліваюцца ў вадну нацыю. Нядаўна, аднак, фасад савецкіх цьверджаньняў быў адхілены савецкім-жа сацыялёгам Максытам Джунусавам, які ўважаецца за экспэрта нацыянальнага пытаньня. М. Джунусаў сьцьвердзіў, што сучасныя дачыненьні між нацыянальнасьцямі Савецкага Саюзу „йшчэ больш праблематычныя чымся клясавыя розьніцы". Навет „Камсамольская праўда", кажа Р. Вікер, нядаўна прызнала, што „савецкія тэарэтыкі й прапагандыстыя недаацэньвалі сілы нацыянальных пачуцьцяў".


BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE
524 St. Clarence Avenue
Toronto 4, Ont.
Матарыялы да друку, ахвяры й падпіску просім прысылаць на адрыс:
Dr. R. Zuk
54 Mary Street
Barrie, Ont. Tel. 728-7581
Advertising rate — $ 1.25 per column inch.


### ПАМІНКІ ПА СЬВ. ПАМЯЦІ БЭРЦЕ АЛЯКСЕЕВІЧ

У нядзелю 11-га жніўня пасьля Сьв. Літургіі Яго Праасьвяшчэнства Япіскап Мікалай адслужыў Сьв. Паніхіду па памерлай 3-га чырвеня сьв. пам. Бэрце Аляксеевіч. Шматлікая грамада нашых парахвіянаў супольна з Уладыкам Мікалаем маліліся за душу памерлае. Пасьля Паніхіды ўсе прысутныя перайшлі ў залю БРГЦ, дзе за супольным сталом справілі памінкі. Тут на месцы трэба аддаць прызнаньне Сп-ні Каці Старчук і Сп-ні Ганне Каваль за падрыхтоўку памінальнага стала. Яшчэ раз выказваем свае найшчырэйшыя спачуваньні Сп. Мікалаю Аляксеевічу і ягонаму сыну Сьцяпану з прычыны страты жонкі й маткі, а Ёй няхай будзе Вечная Памяць!

### ПАНІХІДА ПА СЬВ. ПАМЯЦІ КІРЫЛУ БРОКІНГУ

Пасьля Багаслужбы ў нядзелю 25-га жніўня Уладыка Мікалай адслужыў Сьв. Паніхіду па памерлым 13-га ліпеня Іпадыякану Кірылу Брокінгу. Усе прысутныя шчыра ўзносілі малітвы да Ўсявышняга, каб Ён даў яго душы вечны супакой у небе. Сумавала нашая Царква, бо ня стала вернага і скромнага прыслужніка пры Уладыку. Жыў скромна і ветліва ставіўся да людзей. Сваёй пабожнасьцяй быў прыкладам для іншых. Скромна і спакойна, нікому не замінаючы, адыйшоў на вечны супачынак.

Вечная памяць Табе, Прыяцелю Беларускага Народу!

## АДКРЫТЫ ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ „ВЕСТАК З КАНАДЫ"

**Вельмі Паважаны Сп. Рэдактар!**

Выпадкова папаў мне ў рукі „Голас" Хмары (які чамусьці называе сябе „Беларускім Голасам"), № 161 за чырвень 1968 г. У ім зьмешчана зацемка з прабегу сьвяткаваньня 25 Сакавіка ў Манчэстары, што, як бачна, была часткова сьцягнута з газэты „Беларус", у які я напісаў справаздачу, а сп. Хмара пастараўся перакруціць яе й дабавіць свае камэнтары з жалем. Дзеля гэтага мне хочацца паясьніць ягоныя бязглуздыя цьверджаньні.

Справа ў тым, сп. Хмара, што дыктаваць Вы нам ня можаце, а „разрэзы" й „развалы" хай Вас ня турбуюць, бо-ж ЗБВБ і БАПЦ ў Вялікай Брытаніі для Вас зусім чужыя.

Рэзалюцыю, якую апрабавалі ўсе прысутныя на Акадэміі 50-ых угодкаў Акту 25 Сакавіка ў Манчэстары 24 сакавіка г. г., падпісаў Прэзыдыюм Акадэміі і пераслаў на рукі Прэзыдэнта БНР інж. М. Абрамчыка, запэўніваючы яго, што мы будзем падтрымліваць дзейнасьць Экзыльнага Ўраду БНР і гэтым мы вельмі ганарымся. Хто гэтую рэзалюцыю напісаў — ня ваша справа, сп. Хмара, важным ёсьць тое, хто яе падпісаў — пэўне-ж не на вашу карысьць і завяртанцаў, а на карысьць ЗБВБ і усіх сяброў прысутных на Акадэміі. Да гэтага хачу йшчэ паясьніць Вам, што:

ЗБВБ ганарыцца сваёю дзейнасьцяй на працягу 22-х гадовае працы грамадзка - нацыянальнае й тым, што ад пачатку арганізацыя падтрымоўвае Раду БНР. Тыя сябры, што з гэтым кірункам пагадзіцца не хацелі, пакінулі ЗБВБ больш як 20 год таму й распаўзьліся як мурашкі без свайго гнязда, хаця й прабавалі закладаць фікцыйныя арганізацыі, але без галоўнае базы ўтрымаць іх не змаглі.

Сяньня ЗБВБ ганарыцца ідэёвымі асновамі сваіх закладчыкаў, што стараліся з самага запачаткаваньня працаваць на карысьць грамадзка-нацыянальную, на карысьць ужыцьцёўленьня ідэялаў Акту 25 Сакавіка.

ЗБВБ ганарыцца таксама былымі сябрамі, якія пакінулі Ангельшчыну, але прадаўжаюць сваю нацыянальна-грамадзкую працу ў іншых краінах, якая ёсьць прыкладам для іншых і для Вас, сп. Хмара. Былыя сябры ЗБВБ сяньня амаль у кажнай краіне за акіянамі й Эўропе займаюць важныя становішчы ў беларускай нацыянальнай працы й падтрымоўваюць Раду БНР.

Тут у вялікай Брытаніі ЗБВБ ганарыцца тым, што дзе толькі прабывае група Беларусаў, там ёсьць аддзел ЗБВБ, там расьце беларускае нацыянальнае жыцьцё й праца. ЗБВБ ганарыцца собскаю маёмасьцяй з трымя ўласнымі дамамі ўлучна й самаахвярнай працай сваіх сяброў бязь ніякай аплаты. ЗБВБ ганарыцца ростам беларускіх інстытуцыяў: Школы, Музэю, Беларускае бібліятэкі й грамадзкіх клюбаў. Ганарымся харытатыўнай сэкцыяй пры Гал. Управе ЗБВБ, якая аказвае помач Беларусам у Ангельшчыне й паза межамі яе. ЗБВБ ганарыцца й цешыцца з разьвіцьця БАП-Царквы, якой заўсёды, ад самага пачатку аднаўленьня Яе, дае маральную й матар'яльную падтрымку. ЗБВБ цешыцца з разьвіцьця й іншых беларускіх рэлігійных арганізацыяў, якія дзеяць на карысьць нашай нацыянальнай справы.

А што Вы зрабілі, сп. Хмара, чым Вы можаце пахваліцца? Хіба што сваім хлусьлівым, разьбівацкім „Голасам"? — Вось-жа магу Вас запэўніць, што ЗБВБ ня лічыцца зь пісанінай у вашым „Голасе", як і ў „Голасе Радзімы". Сябры ЗБВБ добра ведаюць іх вартасьць і знаходзяць належнае месца для іх у сьметніку.

**Янка Крушына**

### НОВЫ БЮЛЕТЭНЬ ДЗЕЛЯ ВЫКРЫВАНЬНЯ КАМУНІСТЫЧНАЕ ІНТРЫГІ Ў ЗША

Кансэрватыўны рэспубліканскі часапіс „Нэшэнал Рэв'ю" пачынае публікацыю (двойчы на месяц) бюлетэню, мэтай якога будзе выкрываць камуністычную інтрыгу ў Амэрыцы. Бюлетэнь будзе звацца „Комба" („Змаганьне"). Адзін з трох рэдактароў новага выданьня — Юджын Лаянс, блізкі прыяцель беларускага нацыянальна-вызвольнага руху.

## ЛІСТ З ПОЛЬШЧЫ

**Паважаны Спадар Радактар!**

Перасылаю Вам свой верш. Калі-б знайшлося крыху месца на бачынах вашых „Вестак", дык прашу надрукуйце яго, калі ласка, можа хто-небудзь прачытае.

Калі-б Вас цікавілі падобныя вершы й апавяданьні, дык я магу час ад часу прысылаць у замен за „Беларуса". Больш нічым памагчы Вам не магу, бо й сам я небагаты, а да таго йшчэ й нездароў. А затым ветліва Вас прашу адпішыце мне, калі ласка.

На гэтым канчаю, бо ня ведаю ці ліст мой дойдзе да Вас.

Залучаю мае цёплыя беларускія прывітаньні. (—) Подпіс. (Прозьвішча й адрыс у рэдакцыі).

### О, МОВА ТЫ РОДНАЯ!

О мова ты родная, мова найдарошшая!
На ніякую іншую не магу зьмяніць.
Ты для мяне ад усіх найхарошшая,
Не магу цябе пакінуць, не магу цябе забыць.

Хоць асьмейваў з пагардай і мяшаў з грязёю
Паляк і маскаль — наш сусед.
Аднак шанаваў цябе пад саламянай страхаю
Наш Беларус — наш прадзед і дзед.

Простыя людзі цябе захавалі,
Багаславілі дачок і сыноў.
Табою да Бога ў горы ўздыхалі,
Табой праклінаді паноў.

А калі дачакаўшы старасьці год,
Чалавек на той сьвет адыходзіў —
Зьбіраўся грамадаю вясковы народ
І „Вечную памяць" пабеларуску заводзіў.

Цябе пакінуў і здрадзіў наш магнат
І народ запрадаў у няволю.
Чужым зрабіўся свой арыстакрат,
А народ вякамі цярпеў нядолю.

У песьнях жыла Ты старое бабулі,
Жыла з народам, як пры дарозе колас.
А цяпер за акіянам на другой паўкулі
Гучыць твой моцны беларускі голас.

О мова ты родная, мова найхарошшая!
Павіс за цябе й Каліноўскі Кастусь.
І для мяне Ты найдарошшая,
Як маці родная, Ты і Беларусь!

**Я. Г.**

# КОЛЬКІ ГІСТОРЫКАЎ У БССР?

Сьвяткаваньне 50-годзьдзя Савецкае Беларусі — гэта ў вялікай меры пытаньне гістарычнае навукі, да якое мы зварачаемся цяпер штодня, каб глянуць, якім было жыцьцё нашага народу на працягу апошняга паўстагодзьдзя. Вось чаму, гаворачы пра 50-гадовы юбілей рэспублікі, трэба перш-наперш глянуць на самую гістарычную навуку.

Часамі найлепшы спосаб вызначыць якасьць, гэта—глянуць на колькасьць. Паспрабуйма затым пашукаць адказу на пытаньне: колькі гісторыкаў мае сучасная Савецкая Беларусь? Адказаць на гэтае пытаньне, як выяўляецца — справа далёка ня простая. Невялічкія статыстычныя даведнікі, што ад колькіх гадоў выдаюцца Цэнтральнай Статыстычнай Управай пры Савеце Міністраў БССР, „Белорусская ССР в цифрах", гэткіх катэгорыяў, як гісторыкі ці іншыя прафэсіі, ня пералічаюць. Ніякіх іншых даведнікаў для адказаў на нашае пытаньне няма. Няма дагэтуль і беларускага гістарычнага часапісу, у якім можна было-б шукаць інфармацыі пра колькасьць гісторыкаў Савецкае Беларусі. Ня выдадзена таксама й ніякае кнігі пра стан беларускае гістарыяграфіі. У другім томе „Савецкае Гістарычнае Энцыкляпэдыі", які выйшаў у 1962 годзе ды ў якім зьмешчаны артыкул пра БССР, знаходзім невялічкі артыкулік Зіновія Капыскага „Гістарыяграфія Беларусі". У ім, аднак, лікавых дадзеных пра беларускую гістарычную навуку не падаецца. І ўсё-ж-ткі цікава: колькі-ж гісторыкаў мае БССР напярэдадні свайго пяцьдзесяцігодзьдзя?

Як ні дзіўна, аб'ектыўнага, канчальна ўстаноўленага ліку гісторыкаў Савецкае Беларусі гэтак і няма. Тыя лікі, што падаваліся дасюль у розных месцах, супярэчаць адзін аднаму й выклікаюць падозраньне што да інхнае праўдзівасьці.

Адну з рэдкіх даведак пра колькасьць беларускіх гісторыкаў дзесяць гадоў таму можна пабачыць у зборніку Акадэміі Навук БССР 1958 году „Навука БССР за сорак год". У ім зьмешчаны артыкул У. М. Перцава, І. С. Краўчанкі й З. Ю. Капыскага пад загалоўкам „Гістарычная навука за 40 год", дзе знаходзім наступную даведку:

„Калі ў 1940 годзе ў Беларускай ССР навуковых работнікаў-гісторыкаў, якія мелі вучоную ступень, налічвалася ня больш 10 чалавек, то ў 1950 годзе іх было ўжо 156 чалавек, а ў 1958 годзе больш 200 чалавек" (б. 73).

Савецкая статыстыка аднак часта падразае сама сябе. Бо вось газэта „Зьвязда" 4-га чэрвеня 1960 году зьмясьціла паведамленьне БЕЛТА пад загалоўкам „Нарада гісторыкаў", у якім казалася ўжо:

„У ліку гісторыкаў рэспублікі 171 кандыдат і 8 дактароў навук". Як бачым, у 1958 годзе налічвалася гісторыкаў, якія „мелі вучоную ступень больш 200 чалавек", а ў 1960 годзе іх было адно „179 чалавек".

Наступны раз мы сустракаемся зь лікавымі дадзенымі пра гісторыкаў Беларусі ўжо на маскоўскай нарадзе ў сьнежні 1962 году. Матар'ялы гэнае нарады былі апублікаваныя маскоўскім выдавецтвам „Наука" ў 1964 годзе ў зборніку, загалоўленым „Всесоюзное совещание о мерах улучшения подготовки научно-педагогических кадров по историческим наукам". У зборніку зьмешчанае выступленьне прадстаўніка Інстытуту гісторыі АН БССР І. С. Краўчанкі, які казаў на нарадзе (б. 95):

„У Беларусі налічваецца 320 гісторыкаў, зь іх 205 маюць навуковыя ступені. Але дактароў у нас усяго сем".

Чаму толькі сем дактароў, і чаму адно 205 гісторыкаў з 320-ёх мелі навуковыя ступені, з Краўчанкавага выступленьня, як яно зьмешчанае ў прыгаданым зборніку, не даведваемся. Даведваемся толькі агульную акалічнасьць, пра якую Краўчанка казаў: „Мы сустракаемся зь вялікімі цяжкасьцямі ў галіне публікацыі працаў. Шмат якія гісторыкі-працаўнікі вышэйшае школы й навуковых установаў — яшчэ ня маюць кандыдацкіх ступеняў і галоўным чынам толькі затым, што ня могуць публікавацца: чалавек год піша працу, пасьля год траціць на тое, каб апублікаваць невялікі артыкул".

Крыху інакш, аднак, ужо дакладней, перададзенае было Краўчанкава выступленьне часапісам „Вопросы истории" ў лютаўскім нумары 1963 году. Там заява Краўчанкава (б. 26) гучыць вось як:

„У Беларусі працуюць 328 гісторыкаў, але зь іх адно 205 маюць навуковыя ступені, пры гэтым дактароў — усяго 7 чалавек. **123 гісторыкі не абаранілі дысэртацыяў, дзеля таго, што ня могуць апублікаваць сваіх працаў**".

Як бачым, нястача свайго друкаванага органу становіць галоўную перашкоду росту беларускіх гістарычных кадраў. Між іншага, у тым самым лютаўскім нумары 1963-га году часапісу „Вопросы истории", у якім Краўчанка называў лік гісторыкаў Беларусі — усіх 328 чалавек — падавалася таксама, што ў цэлым Савецкім Саюзе гісторыкаў было „значна больш за 100 тысячаў" (бб. 5-6). Гэта значыць, што ў сярэднім для цэлага Савецкага Саюзу адзін гісторык прыпадаў прыблізна на 2 тысячы жыхароў, а ў Беларускай ССР — адзін гісторык прыблізна на 24 з палавінаю тысячы жыхароў, інакш кажучы Беларусь мела гісторыкаў у дванаццаць разоў менш, чымся ў сярэднім па Савецкім Саюзе. Гэтак вось выглядае савецкая „роўнасьць" Беларусі ў „сям'і братніх рэспублік".

Ці зьмяніўся стан беларускае гістарычнае навукі ад 1962 году? Паглядзем. Газэта „Голас Радзімы", што выдаецца ў БССР, але пашыраецца вылучна на Захадзе сярод беларускае эміграцыі, апублікавала ў красавіку летась (№ 13-970), у разьдзеле „Да 50-годзьдзя Савецкай улады", інтэрвю карэспандэнта радыёстанцыі „Савецкая Беларусь" (прозьвішча карэспандэнта не пададзена) із супрацоўнікам Інстытуту гісторыі АН БССР Пётрам Петрыкавам. Пётр Петрыкаў сказаў:

„Звыш 700 учоных, у тым ліку 13 дактароў і больш чым 200 кандыдатаў навук, распрацоўваюць карэнныя праблемы мінулага нашае рэспублікі . . .".

У С. І. Краўчанкі ў 1962 годзе было „328 гісторыкаў". У П. Пётрыкава ў 1967 годзе — „звыш 700". Цікава аднак, што гісторыкаў з навуковымі ступенямі, гэта значыць актыўных гісторыкаў, у С. І. Краўчанкі было 205 (зь іх 7 дактароў), а ў Петрыкава — „13 датароў і больш чым 200 кандыдатаў". Лік фактычна блізу той самы. Прыгадайма цяпер яшчэ раз, што казалася ў юбілейным зборніку 1958 г. „Навука БССР за сорак год": „У Беларускай ССР навуковых работнікаў-гісторыкаў, якія мелі вучоную ступень, налічвалася ў 1958 годзе больш 200 чалавек".

Значыцца, на працягу апошніх 10-ёх гадоў пабольшваецца фактычна лік дактароў да трынаццацёх чалавек, але кандыдатаў засталося блізу гэтульки-ж, як і ў 1958 годзе, гэтулькі-ж, як і ў 1962 годзе, калі І. С. Краўчанка жаліўся ў Маскве, што „123 гісторыкі не абаранілі дысэртацыяў, дзеля таго, што ня могуць апублікаваць сваіх працаў".

Гэтыя Краўчанкавы словы, у якіх адлюстроўваецца найзырчэй застой росту актыўных навуковых кадраў у беларускай гістарычнай навуцы, гучаць як зьвінавачаньне, як довад, што беларуская савецкая гістарычная навука, побач усіх сваіх патрэбаў, вымагае перш-наперш свайго гістарычнага часапісу, пытаньне якога ніколі ня было гэтак актуальнае й пякучае, як цяпер, напярэдадні 50-годзьдзя савецкае ўлады.

**Я. Запруднік**

# СПАРТОВАЯ СУСТРЭЧА МОЛАДЗІ



**Князёўна Спорту Галіна Кажура**

Спартовыя сустрэчы беларускай моладзі сталіся ўжо прыгожай традыцыяй. Кажнага году, пачынаючы ад 1964, маладыя Беларускі й Беларусы арганізоўваюць спартовыя змаганьні ў беларускім цэнтры адпачынку Бэлейр-Менск.

Як і мінулымі гадамі, сёлета 27 і 28 ліпеня аддзелы Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня Моладзі арганізаваным парадкам сустрэліся тут, каб прадэманстраваць свае спартовыя дасягненьні. Галоўны старшыня БАЗМ Ул. Дунец зарганізаваў прыезд моладзі з Кліўленду, а Аўген Лысюк, старшыня Аддзелу БАЗМ Саўт-Рывэр — Нью Брансьвік, кіраваў усімі спартовымі імпрэзамі.

Паводля рапарту судзьдзяў, вынікі спаборніцтваў былі наступныя:

**Скок увышыню:** Алесь Паповіч 5 футаў і 5 інчаў — першае месца, Робарт Баргэ 5 футаў і 4 інчы — другое месца. Галіна Кажура 4 футы і 6 інчаў — першае месца, Ірэна Азарка 4 футы й 2 інчы — другое месца.

**Скок удаль:** Нік Вайцяхоўскі 17 футаў і 7 інчаў — першае месца, Алесь Паповіч — 16 футаў і 11 інчаў — другое месца.

**Плаваньне:** на адлегласьць 240 футаў Алесь Паповіч пераплыў першы, а Віктар Лосік — другі. Дзяўчаты не асталіся ад хлопцаў, бо на адлегласьць 120 футаў першае месца заняла Ліля Гурын, а другое — Вера Арцішэнка.

**Валейбол:** Кліўлендзкія хлопцы прайгралі Саўт Рывэру, затое дзяўчаты з Кліўленду забралі першае месца ад дзяўчатаў Саўт Рывэру.

**Пінг Понг:** Вельмі прыгожа быў разыграны пінг понг паміж Уладзімерам Страпко й Аўгенам Лысюком. Першае месца дасталося Уладзімеру Страпку. Зь дзяўчатаў першае месца здабыла Галіна Тумаш, а другое — Галіна Кананчук.

На закачэньне спартовых змаганьняў быў выбар князёўны спорту на 1968/69 год. Пры вельмі актыўным удзеле ўсіх спартоўцаў за князёўну спорту была выбраная найлепшая спартсмэнка — Сяброўка Аддзелу ЗАБМ Саўт Рывэр — Нью Брансьвік Галіна Кажура (гл. на фотаздымцы).

Сп. Пётра Нядзьведзкі аж да раніцы сьпяваў пад акампаньямант акардыёну беларускія нацыянальныя песьні й разам із сваёй аркестрай стварыў мілы настрой сярод усіх спартоўцаў на іхнай вечарыне.

28 ліпеня адбыліся нарады ўсіх спартоўцаў, на якіх было заплянавана працаваць і далей, каб наступны год быў яшчэ больш плённым на ніве спорту й наагул у працы беларускае моладзі.

**А. Л.**

## РАСЕЙСКІ КАМУНІЗМ АТАКУЕ НІКСАНА

Як паведаміў нядаўна амэрыканскі друк, у савецкіх газэтах „Труд" і іншых былі апублікаваны войстрыя выпады супраць рэспубліканскага кандыдата на Прэзыдэнта Амэрыкі Рычарда Ніксана й ягонага заступніка Спіра Агнью.

Газэта „Труд", афіцыйны орган савецкіх прафсаюзаў, а фактычна — такі-ж голас партыі, як і „Правда", заявіў, што „антыкамунізм застаецца вуглавым каменем рэспубліканскае плятформы".

Беларусы Амэрыкі й Амэрыканцы беларускага паходжаньня будуць дакладна сачыць выказваньні ўсіх прэзыдэнцкіх кандыдатаў пра дачыненьні ЗША да расейскае савецкае імпэрыі й аддадуць свой голас за таго, хто найпрыхільней паставіцца да паняволеных Масквой народаў, сярод якіх — і народ беларускі.

## НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ БЕЛАРУСІ — „КАШМАР КРАМЛЯ"

Карэспандэнт лёнданскае газэты „Дэйлі Тэлеграф" Дэйвід Флёйд піша, (29. VI. 69), што крамлёўскае кіраўніцтва баіцца цяпер, каб настроі й намаганьні незалежнасьці не перакінуліся з краёў Цэнтральнае Эўропы (Чэхаславаччына) далей на ўсход, на рэспублікі Савецкага Саюзу — Украіну, Беларусь і Прыбалтыку. Д. Флёйд падлічыў, што Эстонцаў, Латышоў, Лятувісаў, Беларусаў і Украінцаў — блізу 60 мільёнаў, г. зн. чверць усяго жыхарства Савецкага Саюзу.

„Кашмар Крамля, — піша Д. Флёйд, — што ідэі нацыянальнае незалежнасьці й сувэрэннасьці могуць заразіць гэтыя народы таксама".

## ПРАЦЫ ІРЭНЫ РАГАЛЕВІЧ НА МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎЦЫ

У горадзе Ёрк, штат Пэнсыльвэнія, наладжаная мастацкая выстаўка імя Карнэгі. Між іншых экспанатаў на выстаўцы будуць паказаныя таксама (4-22 верасьня) працы маладое беларускае мастачкі Ірэны Рагалевіч. У каталёгу выстаўкі пра Ірэну Рагалевіч сказана:

„Ірэна Рагалевіч родам зь Беларусі, аднае з рэспублікаў Савецкага Саюзу. Яна прыехала ў Пэнсыльвэнію зь сям'ёй у 1950 годзе, калі ёй было восем гадоў. Яна жыве цяпер ў Лебанонскім павеце (каўнты). Гэтая маладая спадарычна абрала сабе мастацтва за прафэсію. Яна скончыла ў чырвені Ёрскую Акадэмію Мастацтва, у якой вывучала галоўна мастацтва рэклямнага рысунку. У малярстве яна карыстаецца найахватней масьлянымі хварбамі".

Рэдакцыя „Беларуса" зь вялікай прыемнасьцяй зьмяшчае гэтую вестку ды зычыць сп-чні І. Рагалевіч як найпамысьнейшае ўдачы ў ейнай кар'еры.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „БЕЛАРУСА"

На працягу апошняга месяца паступілі ў касу нашае газэты наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":

1. Ад Беларусаў Ангельшчыны .................... $ 118,50
2. Ад Беларускага Клюбу ў Манчэстары .................... 118,20
3. Ад Праф. Ант. Адамовіча зь Нью Ёрку .................... 100,00
4. Ад Беларусаў Кліўленду 200,00
5. Сабрана ад удзельнікаў 8-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ........ 267,00
6. Ад сп-ва В. і М. Махначоў з Чыкага .................... 10,00
7. Ад сп. Г. Сенкевіча з Чыкага .................... 12,00

**Разам: $ 825.70**

Усім ахвярадаўцам Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!

## МЕНСКІ ЯПІСКАП АНТОН ПРАДСТАЎНІКОМ У КАІРЫ

Менскі Япіскап Антон браў удзел у чырвені сёлета ў высьвячэньні копцкае праваслаўнае царквы сьв. Марка ў Каіры. На ўрачыстасьці былі прысутныя Прэзыдэнт Эгіпту Насэр, прадстаўнік Папы Паўла VI кардынал Дуваль, Генэральны Сакратар Сусьветнае Рады Цэркваў др. Юджын Бэйк ды інш. Япіскап Антон прадстаўляў маскоўскага Патрыярха Аляксея й Расейскую Праваслаўную Царкву.

Вестку гэтую падала газэта „Нью-Ёрк Таймс" (26. VI. 1968).

## ПРАДСТАЎНІЦТВЫ „БЕЛАРУСА"

**UNITED STATES:**

1. **Mr. J. Azarka**
   154 Emerson Street,
   Somerset, N. J.
2. **Mr. Andrey Streszyn**
   3407 Mapledale Avenue
   Cleveland, Ohio 44109
3. **Byelorussian Association in the State of Illinois**
   3006 Logan Blvd.
   Chicago, Illinois 60647
4. **Byelorussian-American Ass'n**
   4055 Normandy Road
   Royal Oak, Mich., 48072

**CANADA.**

**Dr. Raisa Zuk**
54 Mary Street
Barrie, Ont.

**AUSTRALIA:**

1. **Mr. M. Nikon**
   14 Steel Street
   Spotswood W. 14, Vic.
2. **Byelorussian Ass'n of N.S.W.**
   4 Third Avenue
   Canley Vale, N.S.W.

**ENGLAND:**

1. **Mr. A. Laszuk**
   97 Moore Park Rd.
   London, S.W. 6
2. **Mr. J. Kalbasa**
   3 Rowton Thorpe
   Greengates
   Bradford, Yorks
3. **The Byelorussian Club**
   74 Bellott St., Cheetham
   Manchester 8

**FRANCE:**

**Mrs. Kasztelan M. Marie**
1, Rue Negrier
Mouvaux 59

**GERMANY:**

**Mr. Aleksander Malawko**
82 Rosenheim/Obb.
Am. Gern 4.

*ФЭЛЬЕТОН*

# У КРЫВЫМ ЛЮСТЭРКУ

Самі на сьвятога Лебярдзея мо дома сядзелі. А мы вунь у Дэтройт на той агульна-беларуска-канадыйска-амэрыканскі зьезд заглянулі, дык вось прыгоршчы ўражаньняў.

Як можа чулі, зьезд гэны быў пяцідзесяцігодзьдзю бээнэр прысьвечаны. Народу-ж было маса: і лекары, і хімікі, і інжынеры, і фармары, і настаўнікі, і навукоўцы, і работнікі, і пісьменьнікі, і журналістыя, і мы. Адным словам — рыбы вялікай і малой, хоць ты закідвай, рыбак, сетку. А між акунёў, фарэлі й іншай дробязі першы раз сустрэліся й адбывалі паважнае плаваньне кіт і акула (зь вялікае літары!). Карціла ці аднаму рыбаку вуду закінуць, але як ты аднаго ці другога зубастага на крук падчэпіш?

Весела было. Людзі, бачыце, розных прафэсіяў ды йшчэ ў такім патрыятычным разгоне. Як адчынілі гамонку, дык відаць было, што вялікая ў нас сіла народу разумнага. Ці не найбольш было там палітыкаў і гісторыкаў. Паслухаць было што. Даведаўся я, што паўсотні год таму назад у Менску Беларускім бээнэр нарадзілася. Цяпер яе часта плошчай завуць у нас. Розныя людзі стаяць, сядзяць і ляжаць на ёй. Бальшавікі, нашто ўжо сільныя і д'ябальскай моцай успамаганыя, а плошчы гэнай ніяк не разбурачь. Гісторыкі й палітыкі выступалі ў сыботу й папраўлялі сыботнія выступленьні ў нядзелю. Ці-ж дзіва, што столькі скарбаў у галіне гэтых скамплікаваных ведаў удалося мне назапасіць.

Зацікавіла мяне найбольш гутарка пра шкялетазнаўства. Даведаўся, што ёсьць у нас людзі із хрыбтамі й бязь іх. Чулі такое? Я, вядома, ня зусім калека, анатоміяй цікаўлюся, дык хацеў пачуць яшчэ й пра рэбры. Мне, чатырнаццацігадоваму юнаку, некалі два ў чарзе за хлебам пад сонцам Сосавай канстытуцыі паламалі. Але тамака пра рэбры ані гу-гу, а пачалі пра сумленьне й іншае. Штож . . . не загадаеш.

Наапошку дамагаўся слова й Гампты Дампты. Гэны карапуз расьпінаўся, што і ён — гісторык, што ў дэмакратычнай краіне правы мае. Сказалі яму, каб падрос і запісаўся ў Беларусы. Адзін-жа гісторык абураўся, што цэлы тыдзень да гамонкі на замежнай мове рыхтаваўся (загадалі-ж!), ды слова ня далі, а нейкая арганізацыя, што завецца Падгоня, дык зусім сходу не зрабіла, бо сябры перамучыліся. Ніхто ня выступаў із гаманой ад моладзі, бо яе занадта маладой уважаюць. Усяляк было. Пілі піва, сагрэтае цяплынёй спацелай абслугі, і віскі, прымарожанае высокімі цэнамі.

У нядзелю дык надзвычайна служылі набажэнства ўладыкі (многая ім лета!). Цудоўна сьпяваў хор, хоць кіслага меў дырыгента. А ўжо-ж як пачаўся канцэрт! Мамкі мае! Назьляталася нашых салаўёў із Кліўленду, Чыкага й Дэтройту, адна толькі кліўлендзкая зязюлька не прялятала. Ой і дзяўчаткі, ой і хлопцы! Танцоры зь Нью Джэрзі гэтым разам бульбы не таўклі, але затое рукавіцамі махалі. Нядзвычайна да спадобы людзём прыйшоў кліўлендзкі ансамбль (пашана Вам, Кампазытар!). Слухаеш і ўяўляеш, як хвалюецца на родных гонях у ліпені каласістае жыта, кураць канаплі і дзесь трашчыць хітрая сарока. Бацькаўшчыны кавалак!

Дэтройцам за гасьцінасьць, працавітасьць і ахвярнасьць вялікае брава! Расьціце й мацнейце. Вялікае вам дзякуй.

Наапошку сьціплае пажаданьне: чым менш гамонкі й палітыканства, тым лепш. Праўда, кажуць, што збожжа бязь гірсы ня бывае, але ўявіце сабе, што сталася-б із гаманлівымі асобамі, калі-б пачалі яны свае словы ашчаджаць так, як грошы . . .

Тымчасам, да наступнага Лебярдзея . . .

**М. Козыр**